АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

17–23 ВЕРАСНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№38 (230)

МАЛАДЗЕЧНА

## Святароў па восені лічаць

Па ініцыятыве мясцовай улады ў памяшканні гарвыканкома адбылася сустрэча з настаяцелямі Свята–Пакроўскай царквы айцом Аляксандрам, касцёла Святога Юзафа айцом Рыгорыем, Свята–Успенскай царквы айцом Аляксандрам. Абмяркоўвалася падрыхтоўка да святкаванняў двухтысячагоддзя хрысціянства.

Акрамя вечароў духоўнай музыкі, лекцый для дзяцей ў храмах, сустрэч у навучальных установах, запланаваныя дзве свецкія сустрэчы. У кастрычніку з мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам і ў лістападзе – з кардыналам арцыбіскупам Свёнткам сустрэнуцца ўсе жадаючыя маладзечанцы і госці горада.

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ

## У Астраўцы гарачая вада з'явіцца з маразамі

Жыхары райцэнтра, як і некаторых іншых населеных пунктаў рэгіёна, адчуваюць дыскамфорт. У кватэрах адсутнічае гарачая вада. У аб'яднанні жыллёва–камунальнай гаспадаркі традыцыйна кожны год адказваюць, што праводзяць падрыхтоўку да ацяпляльнага сезона, і дадаюць, што гарачая вада з'явіцца ў кватэрах не раней, як пачнецца ацяпляльны сезон.

Работы ў камунальнікаў, як паведаміў "РГ" дырэктар аб'яднання жыллёва–камунальнай гаспадаркі Станіслаў Пятроўскі, у час падрыхтоўкі хапае. Сёлета неабходна замяніць два ўчасткі цеплатрасы, увесці ў эксплуатацыю дзве свідравіны і іншае.

Зрабіць усё аператыўна не дазваляюць фінансы. Напрыклад, доўгі час па гэтай прычыне не маглі закупіць трубы для рамонту цеплатрасы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## У Маладзечне вада не астыне

У сераду намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** сустрэўся з намеснікам дырэктара Маладзечанскіх электрасетак **Леанідам Кузняцовым**.

Папярэдне гараджане меркавалі, што ае вынікам стане графік падачы гарачай вады ў кватэры гараджан. Аднак Л. Кузняцоў абвергнуў чуткі – гарачая вада, як і раней, будзе падавацца кругласутачна.

Сустрэча ж была прысвечаная пытанням падрыхтоўкі да зімы.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Што баліць урачу

У сталіцы прайшоў 7–ы з'езд педыятраў краіны. У ім узялі ўдзел больш за 300 дэлегатаў, сярод іх вядучыя медыкі краіны, вучоныя, прадстаўнікі розных кафедраў медінстытута.

Маладзечна прадстаўляла загадчыца гарадской дзіцячай паліклінікі **Святлана Скапец**. Яна зазначыла, што асноўнай тэмай, якая цікавіла дэлегатаў форуму, з'явілася праблема росту дзіцячай захворваемасці ў краіне: за апошнія 10 год яна павялічылася ў 1,5 раза. Сама С. Скапец вярнулася дамоў з узнагародай – Ганаровай граматай Міністэрства аховы здароўя і каштоўным падарункам.

*Жанна ЛАЗОЎСКАЯ.*

ІВЯНЕЦ

## Рыхтуйся да свята загадзя

Спецыяльны сувенір – плакетка – выпушчаны на мясцовым заводзе мастацкай керамікі. Прысвячаецца ён 200–годдзю Валожынскай іешывы, а святкаванне з гэтай нагоды будзе адзначацца ажно праз тры гады.

Распрацаваў плакетку (чымсці яна нагадвае пано) галоўны мастак завода Пётр Скрыпка. На гэтым керамічным сувеніры адлюстраваны гістарычны будынак, які захаваўся ў горадзе да нашых дзён.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МІНСК

## Кінолагі на «Залатым рынгу»

Каманда беларускіх спартсменаў-кінолагаў, касцяк якой склалі спецыялісты Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў краіны, заняла другое месца ў камандным заліку на адкрытым чэмпіянаце Расіі па летніх відах комплекснага і прыкладнога кіналагічнага спорту «Залаты Рынг», які праходзіў у расійскай сталіцы 11—12 верасня. Першае месца занялі гаспадары спаборніцтвау.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры Дзяржкамітэта пагранвойскаў, найбольшага поспеху з беларусаў дамогся прапаршчык з Полацкага пагранатрада Сяргей Лелянкоў. Са сваім сабакам па мянушцы Ройс ён заняў другое месца ў спаборніцтвах па агульнай камандный трэніроўцы ў акадэмічным двухбор'і.

Усяго ў адкрытым чэмпіянаце ўзялі ўдзел каля 170 спартсменаў з Украіны, Латвіі, Беларусі і розных рэгіёнаў Расіі.

*Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.*

У мінулым нумары ў інфармацыі «Пахаванне адмяняецца» пра ўваходжанне калгаса «Прагрэс» склад у ААТ «Забудова» недакладна ўказана імя генеральнага дырэктара акцыянернага таварыства. Удакладняем: гэта **Іосіф Русак**.

ЗДАРЭННІ

# Выбух на аўтастанцыі ў Астраўцы не адбыўся

*АСТРАВЕЦ. Пасля нядаўняга "мініравання" Ашмянскага і Смаргонскага райвыканкомаў дайшла чарга і да Астраўца. З той толькі розніцай, што быў "замініраваны" не выканком, а аўтастанцыя.*

У 7 гадзін 29 хвілін панядзелка у штаб грамадзянскай абароны па Гродзенскай вобласці патэлефанаваў незнаёмы і паведаміў, што ў Астраўцы замініраваная аўтастанцыя. Выбух павінен быў адбыцца а шостай гадзіне вечара.

Аператыўна спрацавала міліцыя. Супрацоўнікі райаддзела сумесна з пагранічнікамі яшчэ да прыезду спецпадраздзялення па размініраванні з УУС Гродзенскага аблвыканкома ачапілі аўтастанцыю. Таксама быў перакрыты праезд па вуліцы Ленінскай, якая праходзіць ля аўтастанцыі. У экстранным парадку эвакуіравалі работнікаў аўтастанцыі і пасажыраў. На працягу дня ўсе аўтобусы адпраўляліся па маршрутах з цэнтральнай плошчы, а білеты прадавалі ў кінатэатры.

Людзі, якія па справах праходзілі ля аўтастанцыі, з разуменнем ставіліся да здарэння. Разам з гэтым, не абыходзілася "без прыколаў". Адзін мужчына ўпэўнена накіраваўся на аўтастанцыю і на пытанне міліцыянера, куды ён ідзе, адказаў:

– На аўтастанцыю.
– Туды нельга!
– Чаму?
– Замініравана.
– Ды я хуценька толькі схаджу і пабачу расклад руху аўтобусаў!

Пасля дванаццаці прыехалі сапёры. Агледзелі будынак аўтастанцыі, але так і не знайшлі міну. Для прафілактыкі праверылі і гатэль. Вынік быў такі ж – міна адсутнічала. Пасля шасці гадзін вечара сапёры ад'ехалі ў Гродна. Тэлефонны тэрарыст праваахоўнымі органамі пакуль што не знойдзены, а Астравецкі РАУС па гэтым факце ўзбудзіў крымінальную справу.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*



*Раным—рана нічога не гаварыла, што вакол гэтага будынка будуць бушаваць страсці.*



*Будынак аўтастанцыі ў Астраўцы ачапілі не толькі органы аховы правапарадку, але і мясцовыя жыхары, якія нейкі час з цікавасцю чакалі развіцця падзей.*

ФОТА МАР'ЯНА ВЯНГРОЎСКАГА.

ДОБРА ЗАБЫТАЕ СТАРОЕ

## Валожын можа стаць першым горадам у краіне, які будзе выкарыстоўваць толькі энергію ветракоў

*З'явілася распараджэнне Савета Міністраў аб правядзенні ў краіне работ па аднаўленні малой энергетыкі: "ветрачкоў" і іншай "данкіхотчыны" (так часам жартуюць спецыялісты). Аднаўленне таго, што дае танны ток.*

ВАЛОЖЫН. Горад, магчыма, стане першым, які будзе выкарыстоўваць энергію ветракоў. Сталічныя спецыялісты праектуюць 21 ветрак. Устанавіць іх плануецца на ўзвышшы ля раённых электрасетак. У гэтым месцы калісці працаваў гарадскі вадазбор. Там закладзеныя кабелі, існуюць падземныя камунікацыі. Ёсць умовы для выкарыстання таннай энергіі. Тым болей, спецыялісты вызначылі, што самая моцная ветравая паласа – на гэтым узвышшы.

Кожны ветрак разлічаны прыблізна на 100 кілават. А гэта значыць, што энергіі будзе крыху болей за гарадскія патрэбы. Прафінансуе праект цалкам, хутчэй за ўсё, Міністэрства па энергазберажэннях.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



БЕЛАРУСЬ – ЗША

## Пасол ЗША вярнуўся

Дзярждэпартамент ЗША абвясціў пра вяртанне **Дэніэла Спекхарда** ў Беларусь.

Нагадаем, што пасол ЗША пакінуў нашу краіну больш за год таму з прычыны яго высялення з рэзідэнцыі ў Драздах. Беларускі бок паабяцаў кампенсаваць страты, панесеныя амерыканскім бокам у выніку такіх дзеянняў улад Беларусі.

Прэс–сакратар Дзярждэпартамента ЗША **Джэймс Рубін** у сувязі з гэтым падкрэсліў, што пасол Спекхард вяртаецца ў няпросты для Беларусі час. Яго знаходжанне ў нашай краіне дазволіць «... аказваць падтрымку тым, чыя дзейнасць скіравана на аднаўленне дэмакратычнага кіравання, і развіваць нашыя агульныя інтарэсы».

Пасольства ЗША ў Беларусі абвясціла, што з 12:00 4 кастрычніка па 12:00 3 лістапада 1999 года будуць прымацца заявы на ўдзел у латарэі імітацыйных віз у ЗША.

Пачынаецца новы цыкл адукацыйных праграм у ЗША на 1999-2000 год, якія фінансуюцца ўрадам гэтай краіны. Да ўдзелу ў праграмах запрашаюцца грамадзяне Беларусі, якія валодаюць англійскай мовай.

*Аддзел інфармацыі.*

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ*

# У той памятны трыццаць дзевяты

Сёння – 60 год з дня ўз'яднання беларускага народа ў адзінай дзяржаве. Мне, 14–гадоваму ў той час вясковаму хлопцу, запомнілася вось якая падзея.

Воінаў Чырвонай Арміі, якія рухаліся на Мядзел–Міхалішкі–Вільню, віталі кветкамі, ладзілі брамы. Ніхто ў полі не працаваў – было сапраўднае свята.

18 ці 19 верасня з боку Некасецкай царквы прыбегла жонка свяшчэнніка і яе двое сыноў–падлеткаў.

– Забіваюць нашага бацьку! – лямантавалі хлопцы. Галасіла матушка.

Усёй вёскай кінуліся туды, дзе прасёлачная дарога ўлівалася ў шашу. На падводзе ляжаў густа апутаны вяроўкамі свяшчэннік Барыс Піліхоўскі, а ля яго стаялі ўзброеныя кавалерыйскімі карабінамі (часоў I сусветнай вайны) трое мужчын з суседняй вёскі Навасёлкі. Нікога не падпускалі блізка, наставілі зброю на натоўп.

– Што вы робіце? – крычалі жанчыны. – Развяжыце бацюшку.

– Эксплуататара вязем у Мядзел, судзіць будзем. Зямлю меў, нам яе не даваў.

Ніякія ўгаворы, ушчуванні не дзейнічалі на самаўпраўцаў. Па дарозе рухаліся танкі, аўтамашыны. Матушка кінулася ўперад якраз тады, калі праязджалі легкавыя машыны. Шафёр спыніўся. Выйшлі трое вайскоўцаў, з аховай (відаць, высокія камандзіры), падышлі да ўзбуджаных вяскоўцаў.

– Хто на павозцы звязаны і з якой прычыны?

Усе хацелі адказаць. Камандзір запатрабаваў, каб супакоіліся. Убачыўшы ўзброеных людзей у цывільнай вопратцы, вайсковец сказаў:

– Адкажыце вы.

– Вязем на суд свяшчэнніка, ён меў нямала царкоўнай зямлі, здаваў не ўсім у арэнду, а толькі...

Гутарку перапыніў камандзір:

– Адкуль у вас карабіны?

– Былі прыхаваныя ад часу першай сусветнай. Мы вас, таварышы, чакалі. Расправімся цяпер з прыгнятальнікам!

Камандзір да аховы:

– Забраць карабіны!

А да навасельскіх мужчын:

– Развязаць свяшчэнніка! Усе павінны затрымліваць, перадаваць Чырвонай Арміі тых, хто сам нападае або заклікае іншых страляць у чырвонаармейцаў. Выберыце ўладу, тады і разбірайцеся, хто кім быў, што рабіў. Самаўпраўства не павінна быць.

Свяшчэннік стаяў моўчкі – зразумела, перанес такі стрэс. Матушка кінулася да камандзіра, хацела цалаваць рукі.

– У краіне Саветаў такое не прынята, у нас усе роўныя, – пачуўся голас камандзіра.

Натоўп пачаў разыходзіцца.

Калі пачалася вайна з немцамі ў 1941 годзе, некаторыя раілі свяшчэнніку пайсці да акупацыйных улад і расказаць пра здзекі над ім.

– Я гэта не зраблю і вас прашу ўстрымацца, – прасіў Барыс Піліхоўскі. – Кожнаму сваё.

Падчас нямецка–фашысцкай акупацыі некасецкі свяшчэннік па просьбе партызан наведваўся ў Мядзел і адтуль, з гарнізона, дастаўляў ад падпольшчыкаў звесткі. Узнагароджаны медалём "Партызану Айчыннай вайны".

***Міхась ЧАРНЯЎСКІ.***

*ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ*

# У Пагосце дураць «амерыканцаў»

**М. Смаргонь Віленскай губ., Ошмянскаго пав.**

На станцыі Смаргонь аднаму гарбару з вёскі Клізень, Янку Шынку, перарэзала таварным поездам абедзьве нагі і жменю рукі. Яго павязьлі ў Вільню ў бальніцу.

Бэйгар.

**М. Даўгіноў, Віленскай губ., Вілейскага пав.**

У вёску Пагост да селяніна Замедуцкаго прыехаў яго сын, што быў тры гады ў Амэрыцы, і прывёз с сабой 3 тысячы рублёў. Пэўне, што зажыў панам, але панаваў ня доўга. Прыдурылася да яго адна кабета, што яе муж ў салдатах, дый угаварыла яго ехаць зноў з ёй у Амерыку. Той згодзіўся. Але, калі яны даехалі да Маладзечны, кабета ўкрала ў яго грошы і ўцэкла.

В. Сос–кі.

*Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва". №38 ад 17 сеньцябра 1909 г.*

***Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.***

*ЗДАРЭННІ*

# Загінула адзіная дачка

АСТРАВЕЦ. Шасцігадовая Агнешка загінула на месцы аварыі. Яшчэ сем чалавек змешчаныя ў рэанімацыйнае і хірургічнае аддзяленні астравецкага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання. Такі вынік аварыі, якая здарылася ў Астраўцы ў мінулую нядзелю.

Вадзіцель аўтамабіля ВАЗ–2108 Ю. ехаў у райцэнтр. У аўтамабілі былі жонка, дачка і пасажыры. На перакрыжаванні дарог Градаўшчызна–Астравец і аб'язной вакол райцэнтра Варона–Ашмяны–Юрацішкі–Іўе ён не прапусціў аўтамабіль УАЗ, які належыць астравецкай райаграпрамтэхніцы. У выніку сутыкнення шасцігадовая дачка вадзіцеля Ю. ад атрыманых траўмаў памерла на месцы здарэння. Яшчэ адзін хлопец знаходзіцца ў цяжкім стане ў рэанімацыі, іншыя пасажыры з рознай цяжкасці траўмамі знаходзяцца ў хірургічным аддзяленні.

***Віктар МАКАРЭВІЧ, начальнік ДАІ Астравецкага РАУС.***

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 8.09 | 15.09 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 580 | 580 |
| Кілбаса салямі | 1 кг | 1003 | – |
| Сасіскі | 1 кг | 887 | 887 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 467 | 495 |
| Рыс | 1 кг | 300 | 300 |
| Цукар | 1 кг | 165 | 170 |
| Грэчка | 1 кг | – | – |
| Алей | 1 л | 440 | 420 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 182 | 177 |
| Маянэз | 250 г | 80 | 80 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 550 | 550 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 200 | 200 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 170 | 170 |
| Лімоны | 1кг | 500 | 500 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 250 | 250 |
| Масла | 1 кг | 800 | 800 |
| Тварог | 1 кг | 200 | 200 |
| Малако | 1,5 л | 90 | 75 |
| Бульба | 1 кг | 65 | 60 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 220 | 190 |

яблыкі ............ 1 кг ............ 70–100
кавун ............ 1кг ............ 60
капуста ............ 1 кг ............ 45
морква ............ 1 кг ............ 140
памідоры ............ 1 кг ............ 160
перац ............ 1 кг ............ 170
цыбуля рэпчатая ............ 1 кг ............ 120
вінаград ............ 1 кг ............ 350

*ХРОНІКА*

# «Коней» вядуць на платную аўтастаянку

ВІЛЕЙКА. Тыдні з два таму ў раёне завода "Зеніт" угналі мікрааўтобус. Праз некаторы час – у ноч з панядзелка на аўторак у тым жа мікрараёне, ўсяго ў сотні метраў ад месца першага крадзяжу – пабілі шкло ў двух машынах (з мэтай крадзяжу).

Імгненна па Вілейцы пракаціліся чуткі, што ў горадзе дзейнічае «банда аўтамабільных злодзеяў». Цяпер аўтааматары імкнуцца паставіць свайго "каня" у гараж ці на платную аўтастаянку.

***Ігар КІЦІКАЎ.***

*КУЛЬТУРА*

# Дзяўчынка хацела быць спявачкай, а стала Папялушкай

*МАЛАДЗЕЧНА. Актрыса абласнога тэатра лялек "Батлейка" Кацярына Калашнікава пачынае свой 44 тэатральны сезон. Сёлета ёй — 70.*



*Кацярына Калашнікава ў сваёй маладзечанскай аднапакаёўцы.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Яна адна са старэйшых актрыс рэспублікі. 32 гады таму значок "За выдатную работу" ёй асабіста ўручала міністр культуры СССР Кацярына Фурцава. А крыху пазней – ганаровую грамату – старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Сяргей Прытыцкі. Калашнікаву тэатральны мэтр Расціслаў Янкоўскі ласкава называў "Зажигалочкой". А "бацька" маскоўскіх лялек Сяргей Абразцоў запрашаў у сталіцу папрацаваць.

Першую сваю грамату з надрукаваным ленінскім выразам "Мастацтва належыць народу" і партрэтам Сталіна Каця атрымала ў Пінску за поспехі ў мастацкай самадзейнасці. Тады і прэмію – 30 рублёў.

Начальства ўручыла грамату і адразу накіравала на вучобу. Пасля вучобы ў Магілёве і пачынаецца яе біяграфія актрысы.



*У акцёра лялечанага тэатра свая спецыфіка работы. Яна нялёгкая, часам — у прамым сэнсе слова. Бывае, даводзіцца гадзіну трымаць на выцягнутых руках 4—кілаграмовую ляльку. Не выкарыстоўвалі раней і мікрафоны, так і агучвалі сваіх герояў на залу ў 500—600 месцаў.*



*Разам з «галоўным лялечнікам» СССР Сяргеем Абразцовым (у цэнтры) у Маскве.*

ФОТА З АРХІВА КАЦЯРЫНЫ КАЛАШНІКАВАЙ.

– Арганізатар Дзяржаўнага лялечнага тэатра ў Мінску Аркадзь Аркадзьеў загадаў спяваць прыпеўкі, народную песню, – успамінае Кацярына Мікалаеўна, – я зацягнула "Летят утки и два гуся". Пасля гэтага мяне залічылі ў штат трупы з акладам у 60 рублёў. А першая роля – Зайка–зазнайка. Стаяла я перад люстэркам і па складах гаварыла тэкст: "А ружьё–то незаряженное". Мне, вясковай дзяўчыне, загадалі знішчыць свой беларускі акцэнт. Гэта пазней пачалі ставіць спектаклі на беларускай мове.

Больш за 200 персанажаў сыграла актрыса за сваю творчую біяграфію. Памятае, што выхавацелі дзіцячых садкоў прыводзілі дзяцей на спектаклі і бралі ў залу з сабою пустыя вёдры. Дзеці шмат смяяліся, і, калі ўзнікала такая патрэба, спектакль спынялі, а вёдры выкарыстоўвалі замест дзіцячых гаршкоў.

Бывала, адразу 3 ролі іграла ў адным спектаклі. Напрыклад, у "Красе ненагляднай" – сароку, варону і жабку.

– Цікава мы з мужам пазнаёміліся, – гаворыць актрыса, – у спектаклі я іграла Несмяяну, а Уладзімір Аляксандравіч – Ямелю. Па тэксце я выкрыквала: "Не, не хачу!". А аднойчы ён па ходзе сказаў: "Калі захочаш, выходзь за мяне замуж". Вось так і да шлюбу запрасіў.

Кацярына Мікалаеўна падпрацоўвала на "Беларусьфільме". Іграла, пераважна, у масоўцы, невялікія ролі. Здымкі мастацкага фільма "Цубанікі" Сяргея Шульгі праходзілі паміж Маладзечнам і Вілейкай. Калашнікава іграла бабулю. Муж – дзеда. У мэтах эканоміі грошай на эпізоды запрасілі трох вілейскіх міліцыянераў. Тыя прыехалі ў форме на сваёй ведамаснай машыне з мігалкай. Пераапранулі іх у ваенную форму фашыстаў. Далі аўтаматы. Па сцэнарыі тыя павінны былі весці бежанцаў і крычаць: "Хальт!". Паміж дублямі пайшлі "немцы" у лес грыбы паглядзець. Убачыўшы іх, мясцовыя бабулькі ад нечаканасці і жаху вёску паднялі "на вушы". Каб ліквідаваць канфлікт, рэжысёр запрасіў вяскоўцаў зняцца ў масоўцы. 10 дзён па 5 рублёў за дзень. А сваім памагатым выдаў па поўнай праграме за тое, што плакаты ў бліжэйшых вёсках не панаклейвалі і людзей не папярэдзілі, што фільм здымаюць.

Кацярына Калашнікава падпрацоўвала і на радыё, агучвала мультфільмы. У яе характарыстыцы запісана: "... вельмі добра агучвае птушак і жывёл".

– У Мінску здымалі фільм "Пошук працягваецца". Дураўы прывезлі цыркавога пеўня, – гаворыць актрыса, – з 30 чалавек, якія спрабавалі агучыць яго, пакінулі толькі мяне.

Калашнікавых вылучалі на званне "заслужаных". Аднак, каб званне прысуджалася і мужу, і жонцы аднačасова, такога проста не магло быць. Таму муж атрымаў, а яна – не.

На жаль, муж пайшоў з жыцця. Ён таксама, як і Кацярына, арганізоўваў "Батлейку" ў Маладзечне. У іх ёсць вучні ў Мінску: Мікалай Андрэеў, галоўны рэжысёр Гродзенскага тэатра лялек, Віктар Манаеў, акцёр–купалавец. Ёсць вучні і ў Маладзечне. Ды і досвед, талент актрысы яшчэ патрэбны і калектыву, і гледачу.

– Я ўдзячная дырэкцыі і калектыву "Батлейкі" за павагу, цеплыню, з якой яны да мяне ставяцца.

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***

АЗІРНІСЯ




ФОТА ВАЛЯНЦІНА ГЕРНОВІЧА

# АльтанкА
№ 2

СПОРТ

## Баламуты Макоўскія

Мы атрымалі ліст ад 20–гадовага аматара футбола з Маладзечна В. К., дзе прачыталі наступнае:

«Пра слабы ўзровень беларускага футбола гаворыцца шмат. Чаму ён не падобны на італьянскі ці англійскі? На мой погляд, справа ў непрафесійным стаўленні футбалістаў да справы. Браты Макоўскія лічацца лепшымі з выхаванцаў маладзечанскага футбола, але і яны дазваляюць сабе шматлікія вольнасці падчас свайго знаходжання ў барах. Некалькі разоў я быў сведкам таго, як блізняты непрыгожа паводзяць сябе пасля ўжывання вялікай колькасці спіртных напіткаў. У паводзінах Уладзіміра і Міхаіла праяўляецца "зорная" хвароба. Яны вульгарна ставяцца да жаночага полу, глядзяць на іншых быццам з вышыні. Гледзячы на гэтых "лепшых", разумееш, што ў беларускага футбола няма ніякай будучыні. Спорту патрэбныя добрыя выканаўцы, а не баламуты. А братам Макоўскім хочацца параіць: хлопцы, спыніцеся, бо потым вам будзе балюча падаць з уяўнай вышыні».



Калі ў вас ўзнікла жаданне выказаць сваё меркаванне наконт пытання, якое закрануў маладзечанец В. К., пішыце па наступным адрасе: 222310 Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68А, "Рэгіянальная газета" (з адзнакай "Альтанка").

*Падрыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ.*

ГІСТОРЫІ КАХАННЯ

## Калі зоркі рассыпаюцца веерам

– Дзяўчына, як ваша імя?

– Навошта вам гэта?

– Вы мне спадабаліся.

– Нават калі і так, усё адно не скажу.

– Можа, пасядзім дзе–небудзь? Я купляў у вас некалькі разоў шакалад.

– Сіта ( крымінальны аўтарытэт у Курасоўшчыне) таксама неаднойчы ў мяне купляў. Я павінна з кожным пакупніком гуляць?

Ен пастаяў, падумаў, потым дадаў:

– Я запрашаю вас у рэстаран.

– Нікуды я не пайду. Тым больш, мне там не падабаецца.

Хлопец з залатым ланцужком здзівіўся.

Я быў яе чалавекам, як гавораць, для душы. Ад мяне ў яе не было тайнаў. Гаварыла яна са мной і пра каханне.

– Наша гісторыя, – расказвае яна мне, – пачалася значна раней. Аднойчы па нашай Курасоўшчыне едзе « Кадзілак». Мне б такую машыну і яе гаспадара! І што ты цумаеш? Праз некаторы час ён прасіў мой нумар тэлефона. Прыйшлося саступіць. А на наступны дзень ён тэлефануе.

– Можна да цябе прыехаць?

– У мяне яшчэ не ўсё прыбрана, – кажу яму.

– Давай дапамагу табе. Я высокі, столь памыю, павуцінне паздымаю.

– А ў мяне яго і няма, – кажу.

Так і сталі мы сябраваць. Ен спачатку ставіў сябе высока. Прыйшлося яго «выхоўваць». Як?

– Сказала яму: ці ты гуляеш са мной без усялякіх «забабонаў» , ці знаходзіш сабе іншую дзяўчыну.

– І дапамагло?

– Вядома! Асабліва пасля аднаго выпадку.

– Якога?

– Прыехаў ён аднойчы да майго кіёска каля адзінаццатай гадзіны. У той час мой гаспадар з адной жанчынай прымалі ў мяне выручку.



– Вы Аліну (гэта значыць, мяне) доўга не затрымлівайце, – кажа.

– А ён высокі, у спартыўным касцюме, – працягвае яна. – Мае гаспадары падумалі, што гэта рэкет прыехаў. Адпусцілі мяне тады хутка. Выйшлі мы з ім на вуліцу. І тут я пачула ад Віці пах спіртнога. Я яму тады такога нагаварыла! Праводзіў мяне да дзвярэй, а потым паабяцаў больш у такім выглядзе не з'яўляцца. Так і «выхавала» . Потым ён ва ўсім мне дагаджаў.

– І...

– Як я магла ўстаяць? Але аднойчы ён знік. З'явіўся праз паўгода і сказаў, што быў у турме – падставілі. Даравала. Хутка ён зноў знік. Такі ў мяне хлопец. Цікавы. Нядаўна прыехаў. Займаецца перагонкай машын, добра на гэтым зарабляе. Зрабіў мне прапанову выйсці за яго. Я, – гаворыць, – развёўся.

– Якая мне розніца? – пытаюся.

– Рыхтуйся, – адказвае.

– А ты?

– Я адправіла яго «ў лазню». Ведаеш, што ён зрабіў? Заказаў саўну на дваіх. Ці можна на такога крыўдзіцца?

– Што ты будзеш рабіць?

– Можа, і выйду за яго.

– Ці было каханне?

– Не ведаю. Проста ён да мяне добра ставіцца.

– Значыць, хэпі–энд?

– Я люблю свабоду. А каханне як прыходзіць, так і праходзіць. Каханне... Проста трэба жыць і радавацца жыццю.

– Я гэта і раблю.

Яна злосна глядзіць на мяне і аб чымсьці думае.

– Дзяўчына, можа, пасядзім дзе–небудзь? – крыўляюся я, – я цябе золатам асыплю.

Заўважыўшы мой шматзначны погляд, яна заліваецца смехам.

– За гэта я цябе і люблю, – гаворыць яна.

*Мікалай ВАСІЛЕЎСКІ.*

ПРЫГАЖУНІ НА ЗАМЕТКУ

## Каб цябе заўважылі...

***Прывітанне ўсім!***

***Калі ты не лічыш сябе прыгожай, але марыш ёю стаць, то наша "Альтанка" дапаможа табе ў гэтым.***

Сёння я табе прапаную 9 парад польскай журналісткі Барбары Гаўроньскай.

Усміхайся! Крык і злоба знішчаюць прыгажосць. У спакойных, добразычлівых адносінах з навакольнымі – залог тваёй прыгажосці.

Адзін дзень або вечар у тыдзень прысвяці сабе! Схадзі да цырульніка ці ў касметычны кабінет або проста зрабі сама маску для твару і шыі. Культывуй у сабе звычку даглядаць за целам з юных год, тады ў любым узросце будзеш выглядаць на ўсе 100 працэнтаў.

Стыль твайго хатняга адзення – гэта чысціня і зручнасць! Сябры ацэняць у гэтым выпадку твой прыгожы выгляд, і адсюль твой добры настрой.

Умей карыстацца макіяжам! У нас ніводная дзяўчына не дазволіць сабе выйсці з дома без касметыкі. Прытрымлівайся прынцыпу: не вылучаць на твары ярка адразу вочы і вусны. Зрабі акцэнт на чым–небудзь адным.

Палова твайго поспеху – у прычосцы! Не зарта прытрымлівацца моды слепа. Твая прычоска павінна спалучацца з макіяжам, адзеннем, тыпам знешнасці. І яшчэ: не шкадуй грошай на цырульніка.

Сачы за вагой цела, гуляй, рабі гімнастыку! Усё гэта гучыць сумна, але што зробіш? Толькі працай можна дабіцца мяккай паходкі і стройнай фігуры.

Лепш еш 5 раз патроху, чым 3 разы памногу! Ворагі тваёй прыгажосці – цукар, соль, вострыя прыправы, алкаголь. Сярод сяброў – садавіна і гароднiна, усё малочнае.

Прыцягвай у свае справы сяброў! Разам зробленая работа замацуе ваша сяброўства.

Не думай пра свае няўдачы! Прымай іх спакойна і вер, што яны хутка зменяцца ўдачамі. Не паддавайся хандры.

Плануй заўтрашні дзень! Гэта пазбавіць ад непатрэбных перажыванняў і клопатаў. Знайдзі 15 хвілін удзень паляжаць ці проста адпачыць у крэсле.

Польскія дзяўчаты даюць параду: калі ў цябе дрэнны настрой, то купі сабе новую сукенку, перасунь мэблю ў кватэры або зрабі прычоску.

Жадаю табе быць прыгажуняй!

*Алеся КРАСКОЎСКАЯ.*

МАЛАДЗЁЖНЫ КЛУБ

## Падарунак для прыгажуні

● З ліста, атрыманага ад Алены з Маладзечна:

– Паважаныя альтанцы! У свае 18 год я сутыкнулася з такой праблемай: не магу пакахаць па–сапраўдным. Калі знаёмства з хлопцам толькі пачынаецца, мне цікава. Кожны раз з'яўляецца ўлюбёнасць і здаецца, што гэта на ўсё жыццё. Праходзіць месяц – і я ўжо не магу знаходзіцца ў кампаніі з "мілым". Я страціла такім чынам пяць "сяброў сэрца". Цяпер не хачу нават знаёміцца з хлопцамі, бо ведаю – нічога ў нас не атрымаецца. Што мне рабіць?

Ніякай праблемы тут няма. У цябе, Алена, з'явіўся псіхалагічны забабон: «мяне спасцігне расчараванне». Пры новым знаёмстве жыві ім і не думай пра дрэннае. Не бойся знаёміцца з хлопцам, які табе падабаецца. Магчыма, ён і будзе тваім каханым.

● Кожны з нас бачыў мноства ўсялякіх "гарачых дзесятак", "дваццатак", хіт–парадаў. Ходзіць мноства чутак пра тое, што там усё куплена і г. д. Цікава, якую музыку слухае моладзь нашага рэгіёна? Прапаную кожнаму з вас узяць удзел у хіт–парадзе "МК". Запішыце тры свае любімыя песні (беларускамоўных ці рускамоўных выканаўцаў) і адпраўце іх у рэдакцыю.

Прыгажуні! Дасылайце свае фотаздымкі ў рэдакцыю з адзнакай "Альтанка", "Міс рэгіёна". Фота прыгажуні верасня будзе змешчана ў наступным нумары "Альтанкі". Акрамя гэтага, яна атрымае аўдыёкасету з песняй, якая найбольш часта будзе сустракацца ў вашых купонах.

*Вядучы рубрыкі Юрый ІВАШЫНКА.*

НЕВЕРАГОДНАЕ

## Я снайпер...

***На вуліцах гарадоў Беларусі з''явіліся хлапчукі і дзяўчаты са значкамі «Я снайпер».***

На пытанне, што яны «страляюць», можна было пачуць у адказ:

– Цыгарэты...

– Грошы...

– Я толькі вучуся на добрага снайпера!..




*Валянцін ГЕРНОВІЧ*

ГЕРОІ НАШАГА ЧАСУ

## У XXI стагоддзе – з аптымізмам

У гэтай рубрыцы мы будзем размаўляць з цікавымі маладымі людзьмі. Якое яно, новае пакаленне? Хто будзе жыць у XXI стагоддзі, будаваць новыя ўзаемаадносіны, фарміраваць новыя погляды? Якія яны, Героі Нашага Часу? Адказы на пытанні – у нашай рубрыцы. Сёння наш госць – 17–гадовы музыкант пачынаючага мінскага гурта "Мнемосина" ЗахарРанеўскі.

**– У якім стылі грае ваш гурт?**

– Крыху мадэрнізаваны панк–рок.

**– Панк–рок узнік даволі даўно. Ты лічыш яго актуальным і сёння?**

– Не ведаю, актуальна граць панк–рок сёння ці не. Я проста займаюся тым, што мне падабаецца.

**– Ці будзе гэты стыль развівацца ў наступным стагоддзі?**

– Будзе, калі добра рабіць сваю справу будуць такія ж пачынаючыя гурты, як "Мнемосина".

**– Гэта значыць, ты збіраешся звязаць свой лёс з музыкай?**

– Пакуль не магу дакладна сказаць, але працягваць іграць я буду.

**– Чым захапляешся, акрамя музыкі?**

– Пішу вершы. Некаторыя потым становяцца песнямі.

**– Чаго чакаеш ад новага тысячагоддзя?**

– Спадзяюся на змены да лепшага.

**– Якія якасці патрэбна пакінуць у мінулым тваім равеснікам?**

– Эгаізм і азлобленасць на навакольны свет.

**– А якія патрэбна ўзяць у XXI стагоддзе?**

– Веру ў сябе, аптымізм, упартасць у дасягненні сваёй мэты.

*Алена КАСПЯРОВІЧ.*

Шаноўныя чытачы! Вы прагледзелі другі нумар «Альтанкі». 20 верасня з 16:00 да 17:00 па маладзечанскім нумары 69667 вы маеце магчымасць падзяліцца сваімі ўражаннямі з рэдактарам нашай старонкі Юліяй Ванслаў. Такія «прамыя лініі» мы будзем праводзіць рэгулярна. У вас узнікла жаданне праверыць годнасць лепшых клетак свайго мозгу? Тэлефануйце, нам патрэбныя карэспандэнты з усіх куткоў рэгіёна. У дваццаць першае стагоддзе – з новай газетай!

АЛЬТАНЦЫ

### У «Альтанцы» з вамі сядзелі:

*Алеся Краскоўская.*
18–гадовая навучэнка групы №208 Маладзечанскага ўлікова – планавага тэхнікума; любіць жыццёвыя песні; балельшчыца ФК «Маладзечна».





*Мікалай Васілеўскі.*
30–гадовы журналіст з Мінска. Гісторыі кахання піша каля двух гадоў.

*Алена Каспяровіч.*
Перайшла ў 11 клас вілейскай СШ №1. Творчая дзяўчына, якая збіраецца звязаць свой лёс з журналістыкай.



ФОТА 3Х4

На гэтым месцы можа быць ТВАЁ ФОТА.
Далучайся да нас !

*Нумар падрыхтавалі:* ***Юлія ВАНСЛАЎ*** (рэдактар «Альтанкі»), ***Валянцін ГЕРНОВІЧ*** (вёрстка), ***Юрый Івашынка*** (вядучы рубрыкі «МК»), ***Алеся Краскоўская, Алена Каспяровіч, Мікалай Васілеўскі.***

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Мікалая Хадасевіча з п. Беразінскае Маладзечанскага р–на



**Па гарызанталях:** 1. Фаза народнага аднаўлення. 4. Рыба сям'і кефаляў. 6. Прылада для вымярэння даўжыні крывых ліній на картах. 9. Верны, адданы балельшчык. 11. Шматдулавая збпроя XVI–XVII стст. 13. Прамысловая рыба атрада акунёвых. 16. Землярыйная машына для пабудовы каналаў. 19. Згустак крыві на месцы паранення. 20. Хімічны элемент, атрыманы штучна. 21. Пара года. 22. Хімічны элемент, галаген. 23. Зброя Сымона–музыкі ў паэме Я. Купалы. 25. Сродак упакоўкі кількі. 27. Васковае рэчыва, якое выкарыстоўваецца ў парфумерыі для замацавання паху духоў. 28. Настаўленне. 30. Транспартны сродак для перавозкі пасажыраў. 32. Невялічкая частка паперы, запэцканая чарнілам. 34. Тэлескоп для фатаграфавання Сонца. 35. Погляды, асновы светапогляду. 36. Жаночае імя.

**Па вертыкалях:** 2. Кветкі, сабраныя разам. 3. Прыбытак. 4. Асвятляльны прыбор. 5. Контур прадмета. 7. Від гравюры. 8. Ансамбль з 8 выканаўцаў. 10. Прылада, якая забяспечвае бяспеку чужых людзей ад сабакі. 12. Царыца багоў у грэчаскай міфалогіі. 14. Адлегласць ад старту да фінішу. 15. Адступленне ў пачатковым радку тэксту. 16. Жывёла жаночага роду. 17. Парнакапытная жывёла ў Грэцыі. 18. Ядавітая вужака сям'і аспідаў. 23. Агульная назва літоўскіх народных песняў. 24. Дошка для вылічэння ў старажытнай Грэцыі. 26. Традыцыйныя дзеянні ў жыцці чалавечага калектыву. 29. Пацямненне скуры пад уздзеяннем сонечных прамянёў. 31. Дрэва роду тапаль. 32. Літара грэчаскага алфавіта. 33. Настрой твора.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №37.*

Па гарызанталях: 1. Прага. 4 Юнга. 6. Азон. 7. Апора. 10. Кол. 11. Быт. 13. Кіно. 15. Увага. 18. Арэна. 20. Уток. 21. Нос. 22. Сум. 23. Асада. 26. Арда. 27. Алюр. 29. Азарт.

Па вертыкалях: 1. Пан. 2. Арап. 3. Амур. 4. Юнкор. 5. Галун. 6. Аркан. 8. Ода. 9. Абат. 12. Такса. 14. Наса. 16. Васал. 17. Гумар. 19. Эра. 24. Сера. 25. Дача. 28. Юхт.

РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ ЗАХВОРВАННІ І СПЕЦЫФІЧНЫЯ СПОСАБЫ ІХ ЛЯЧЭННЯ

# Артрыт

*Пачатак у №№ 31, 33, 34.*

Адпачынак, расслабленне і пазбаўленне ад хваляванняў, трывог і напружання займаюць важнае месца ў праграме лячэння.

Таму, калі хворы можа сабе дазволіць, лепшы варыянт для яго – легчы на колькі тыдняў у неўрапатычную клініку. Гэта гарантыя таго, што ён атрымае патрэбнае харчаванне, пры гэтым не будзе клапаціцца пра пошукі і яго набыццё. Гэта гарантыя таго, што ён атрымае неабходны адпачынак і расслабленне, масаж і распрацоўванне суставаў спецыялістамі, лячэбныя ванны і - пры неабходнасці - прамыванне кішэчніка дасведчанымі медработнікамі. На гэта варта выдаткаваць грошы.

Перад пачаткам прыёму іншых лекаў, на працягу 3 дзён варта прымаць па 2 гомеапатычныя пілюлі Sulphur 6x. 3 разы ў дзень паміж прыёмамі ежы. Сваім ачышчальным уздзеяннем на печань і кішэчнік Sulphur павышае эфектыўнасць усіх наступных лекавых сродкаў.

Біяхімічныя сродкі. Nat. Phos. (фасфат натрыю) па 3 пілюлі перад ежай; Kali. Phos. (фасфат калію) па 3 пілюлі пасля ежы; Silica (крэмень) па 3 пілюлі перад сном; жменька Глаўберавай солі (сульфат натрыю) у гарачай вадзе ці ў гарбаце раніцой адразу пасля сну. Усе пілюлі варта класці пад язык, каб яны павольна распушчаліся ў сліне. Ці прымайце спецыяльны сродак ад артрыту д-ра Гілберта (D.128).

Добры гомеапатычны сродак пры падагрычным артрыце з запаленымі і хваравітымі ступнямі – гэта Ledum (дзікі размарын) у выглядзе гомеапатычных пілюль. Тыя часткі шкарпэтак і панчох, што датыкаюцца да ступняў (штодня апранайце чыстую пару), варта спырсківаць серным цветам. Гарачыя нажныя ванны з марской соллю аблегчаць болі ў суставах.

**Канстанцыя МЭЛАР.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Маладзечанскія рыбакі – лепшыя ў вобласці

*праўда, пасля сталічных*



*Замест традыцыйнай вялікай рыбіны рыбакі Саша і Сяргей паказваюць дыплом.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

МАЛАДЗЕЧНА. Каманда паляўнічай гаспадаркі на абласных спаборніцтвах па лоўлі рыбы летняй паплаўковай вудай заняла другое месца. У склад каманды ўваходзілі прыватны прадпрымальнік Аляксандр Гмыза, будаўнік Сяргей Марцінчык, работнік фірмы "Тэра" Уладзімір Сакалоў. Дарэчы, Уладзімір, капітан каманды, спаборнічаў адной левай – бо правая рука была загіпсаваная.

Званне "лепшых рыбаловаў" аспрэчвалі 5 каманд. Акрамя маладзечанцаў, – мінчане, нясвіжцы, рыбакі са Смалявічаў і Светлагорска. Усе сабраліся на Лошанскім вадасховішчы (райцэнтр Узда). Бераг разбілі на сектары. Цягнулі жэрабя, хто ў якім месцы будзе вудзіць.

У першы заліковы дзень каманды "стартанулі" у 4.30. У другі – у 8 раніцы. На паказ майстэрства адводзілася па 3 гадзіны. Толькі за 5 хвілін да пачатку дазвалялася прыкарміць рыбу. Забаранялася выкарыстоўваць жыўцоў і ненатуральныя прынады. Пасля кожнага тура злоўленую рыбу ўзважвалі і вынік заносілі ў пратакол.

Сяргей Марцінчык:

– Мы літаральна на сотыя грама абышлі смалявіцкіх рыбакоў. Лавілася плотка, верхаводка. Вось да мінчан, якія перамаглі, нам усім яшчэ далёка. Па вялікім рахунку, яны – прафесіяналы. Выступаюць за рэспубліку на міжнародных спаборніцтвах. Адна экіпіроўка цягне на 3–4 сотні долараў.

Аляксандр Гмыза:

– Для нерыбаловаў спаборніцтвы выглядалі так: на беразе стаіць з вудамі 21 чалавек. І поўная цішыня. Ну, а мясцовыя рыбаловы прыходзілі "пахварэць", за парадамі.

Каманда маладзечанцаў – рыбакі са стажам. У вольны час летам едуць на Вілію, зімой – на кар'еры ў Белае, Залессе. Што апошнім часам запомнілася?

Сяргей:

– Вядро акунёў налавіў у Даманаве.

Аляксандр:

– На Белым ляшча злавіў на 3,5 кілаграма, на Ушы – вялізнага карася.

**Віталь КРУПЯНЬКОЎ.**

ПРОСТА АНЕКДОТ

***Анекдот пачуў падчас стажыроўкі ў ЗША. Разам са знаёмым наведвалі розныя цэрквы і звярнулі ўвагу на шырокую дабрачынную дзейнасць амерыканцаў. У аднаго са свяшчэннікаў запыталіся пра іхніх «спонсараў». У адказ пачулі:***

Яхта Рабіновіча пацярпела крушэнне ў моры. Сам гаспадар з жонкай здолеў дабрацца да нейкага атола. Ён агледзеў гэты атол і спакойна сеў на пясок, тварам да мора.

– І што ты чакаеш, стары шлімазл?! Рабі што–небудзь! – закрычала на яго жонка.

– Супакойся і паслухай, што я табе скажу. Тры гады таму (16 верасня) я ахвяраваў галоўнай сінагоге Амерыкі 500 тысяч. Праз год, пасля ўдалай здзелкі на біржы, я зноў вырашыў ахвяраваць і ў той жа дзень 16 верасня перавёў на іхні рахунак 700 тысяч долараў. Летась мае акцыі рэзка пайшлі ўверх і я меў 9 мільёнаў з іх продажу. Адзін мільён я 16 верасня (як заўсёды) адаслаў у сінагогу. Вось так.

– Ну і што з таго?! – не супакойвалася жонка. – Навошта ты мне ўсё гэта расказваеш?

– А тое, што сёння 17 верасня. Не пройдзе і двух дзён, як яны нас знойдуць...

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

УСМІХНЕМСЯ

# Морква сталовая "Лялечка"



*Праўда, моркаўка «Лялечка» знешне нагадвае мужчыну. У яго (яе) дзве нагі, якія заканчваюцца ступнямі (праўда, без пальцаў). Адзаду дзве выпукласці (ягадзіцы)...*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

МАЛАДЗЕЧНА. Урач–лабарант радзільнага дома Іна Малішэўская першы сезон зняла ўраджай на дачным гародзе ў Рагазах.

Вырошчваць агародніну яна любіць. На жаль, часу не хапае. Дачныя буракі ў яе – быццам цыліндрычныя фігуры, морква – здвоеныя, строеныя караняплоды. А на работу ўрач узяла паказаць калегам моркаўку, якой усім калектывам далі імя "Лялечка".

Каб 35–сантыметровай "лялечцы" не было холадна, пакрытая яна ружовымі валаскамі.

**Аддзел інфармацыі.**

ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# У мяне... таксама двое!

Год з пяць таму быў у Маладзечне сведкам наступнай сцэнкі.

Грамадзянін «браткоўскага выгляду» гуляе з сям"ёй па горадзе. У правай руцэ ў яго заціснутыя адначасова мабільны тэлефон і чамусьці пэйджэр. Сям"я складаецца з жонкі (просценькая лялька, якая неяк дабралася да ўсяго гэтага багацця; палова твару затынкаваная памадай незразумелага колеру), якая цягне за рукі двух хлопцаў год 4–6. Падыходзяць да палаткі, дзе прадаюць сёе–тое з «хуткай ежы». «Браток» заказвае, сям"я стаіць у яго за спінай. Яму пачынаюць даваць ягоныя заказы. Ён бярэ адзін бутэрброд, другі (усе правай рукой), далей разумее, што адной рукой яму не ўправіцца.

Тады «браток» паварочваецца і працягвае «жрачку» жонцы. Тая паказвае яму дзве рукі, што трымаюць хлопчыкаў, і з мілай непасрэднасцю гаворыць:

– У мяне двое дзетак.

У «братка» на твары адбіваецца неймаверная работа думкі, пасля чаго ён няўпэўнена выдае:

– У мяне таксама...

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

ГАРАСКОП 20 – 26 ВЕРАСНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
Дапамога новых партнёраў прынясе прыбытак. Удзяліце ўвагу сваім каханым – ім апошнім часам не хапае вашай цеплыні. Выхадныя пройдуць бурна.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Шмат кантактаў. Рамантычная сустрэча стане пачаткам больш сур"ёзных стасункаў.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Напружанасць у асабістых стасунках у чацвер і пятніцу. Добрыя дні ва ўсіх пачынаннях. Чакайце падарунак.

**РАК (22.06–23.07)**
Магчымыя знаёмствы з цікавымі ўплывовымі людзьмі. Выхадныя дні праведзяце спакойна.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Прадумвайце паводзіны да дробязяў. У чацвер магчымае з"яўленне «прынца». Калі вашае сэрца не свабоднае, не варта разбураць ранейшыя стасункі.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Добрыя магчымасці будуць межаваць з цяжкасцямі. Сцеражыцеся траўмаў.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Добра было б правесці гэты час на дачы, папарыцца ў лазні, пад шум дажджу прывесці ў парадак свае думкі.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Жанчынам, хутчэй за ўсё, давядзецца вытрымаць раўнівыя падазрэнні мужа. У нядзелю настрой падымуць прыемныя навіны.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Надыходзіць час заўважных зменаў. Не спяшайцеся. Важную сустрэчу прызначайце на аўторак ці чацвер.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Падыходзьце да ўвасаблення даўно пазначаных планаў. У нядзелю «зваляцца» госці – прыміце іх гасцінна.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
У справах – «застой». скарыстайце час, каб заняцца сабою.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Не бярыце на сябе абавязацельствы, якія вы не зможаце выканаць. Цяпер гэта асабліва небяспечна. Адзінокія знойдуць сваю «другую палову».

